Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 35 Пятніца, 17-га Кастрычніка 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар. — 5 гр.

## АБВЕСТКІ

**Часовая Беларуская Рада зьмяшчаецца на Нямецкай вул. Hotel „Palace“, пакой № 154.**

**Інтэрэсанты прымаюцца ад 9 — 11 гадз. раніцай.**

**Настаўнікам пачатковых школаў.**

Школьная Камісія Часовай Беларускай Рады гэтым абвяшчае, што, ў зьвязку з адчыненьнем беларускіх школаў, усім зарээстрованым Камісіяй настаўнікам прапануецца: 1) прысланы сваю адукацыйныя дакумэнты і жыцьцярысы; 2) даныя аб тым, дзе магчыма адчыніць школы (ці ёсьць адпаведныя будынкі); 3) сабраць подпісы ня менш як 40 бацькоў, якія аддадуць сваіх дзяцей у беларускія школы; Подпісы павінны быць зацьверджаны солтысам і войтам; 5) якая школа зьяўляецца пажаданаю — чыста-беларуская, ці двухмоўная.

У выпадку, якіх-нібудзь тэхнічных труднасьцяў, ці перашкодаў з боку мясцовае ўлады, незабаўна паведамляць Школьную Камісію на адрэсе: Wilno, ul. Niemiecka, Hotel „Palace“, Białoruska Komisja Szkolna.

Вакансіі будуць замяшчацца ў парадку паступленьня заяваў.

**Школьная Камісія Час. Бел. Рады.**

# Першая задача.

Як выясьнілася з перагавораў дэлегацыі Часовай Беларускай Рады з п. Міністрам Прасьветы, ятчэ ў гэтым годзе, пры пэўнай натузе беларускіх настаўніцкіх сіл, магчыма будзе залажыць у беларускіх вёсках ці мястэчках рад беларускіх пачатковых школаў.

Над гэтым заданьнем трэба спыніць моцную ўвагу і, не адкладаючы справы на заўтрашні дзень, пачаць яе.

Час ужо даволі позны, але вялікую справу прасьветы трэба рабіць лепей позна, як ніколі.

Рээстрацыя настаўніцтва Школьнаю Камісіяй ня спыняецца.

Параскіданыя па вёсках нашы настаўніцкія сілы павінны прысылаць якнайхутчэй у Школьную Камісію патрэбныя ведамасьці, згодна з яе абвесткай, павінны дружна і сьмела прыступіць да тае справы, якая адкладу ня церпіць.

Гэта ясна для кожнага цьвярозага чалавека, для кожнага беларускага культурнага працаўніка.

Аднак-жа, з провінцыі нам пішуць аб здарэньнях агітацыі старонынікаў „Сялянскае Праўды“, быццам нічога з нашае школьнае справы ня выйдзе.

Хай-жа ведае кожны нармальны беларус, што падобная агітацыя проста праступна з чыста моральнага боку, бо ніхто ня мае права падбураць свой родны народ да таго, каб ён гадаваў сваіх дзяцей у цемры.

Кучка збанкрутаваўшых беларускіх палітыканаў, якая выпушчае ў Вільні сваю „Сялянскую Праўду“ на тое й вядзе сваё баламуцтва, каб ня было ніякага жывога удзелу ў нацыянальным беларускім жыцьці самых народных масаў.

Родныя школы нашым сялянскім дзецям патрэбны і яны, ня гледзячы ні на якую дэмагогію тых, хто прывык спэкуляваць на народнай цемнаце, будуць адчыняцца там, дзе гэтага жадае сам народ, бо гэта яго сьвятое права.

Закладаньне нашых школаў — справа даволі трудная, але што можа быць трудным для сілы жывога народу?

Новыя школы патрэбуюць масы неабходных падручнікаў, аб якіх таксама трэ' будзе парупіцца.

Ніхто нікому ня можа забараніць палітыканстваваць. Але-ж таксама ніхто не забароніць нам тварыць сваю родную справу ў імя нашай будучыны, нашага маладога пакаленьня.

І ў вялікі момэнт пералому ў нашым нацыянальным жыцьці, мы — бацькі сваіх няпісьменных сыноў і дачок — павінны прылажыць усе свае сілы, выкарыстаць усе магчымасьці, каб яны не засталіся без навукі.

Досіць мы ўжо наракалі на свой лёс, на тыя ці іншыя прычыны свае нядолі.

Трэба зразумець, што і самы лёс наш і нядоля ў вялікай меры залежаць ад масавае нацыянальнае цемнаты.

Сорам прызнацца, што і нашы гэтак званыя „вярхі“ часта-густа далёкі ад элемэнтарнае людзкае этыкі, будучы здольнымі толькі да партыйна-гуртковае грызьні.

Дзікая лаянка яшчэ можа быць даравана простым, неадукованым людзям, але нельга дараваць яе таму, хто хоць крыху прадзёр вочы, каб бачыць болей, чымся мільёныя масы яго гаротных братоў.

Можна расходзіцца ў паглядах на рэчы, можна саўсім не згаджацца са сваімі праціўнікамі, але-ж нікому нельга залазіць у душу з гразнымі ботамі.

Вякі маскоўскае няволі, пражытыя ў варунках нячуванай палітычнай нецярпімасьці, пакінулі свой чорны сьлед на нашым грамадзянстве, вырасшым пад маскоўскім дэспотычным рэжымам, і мала чаму прыходзіцца дзівіцца.

Калі-ж ня будзем самі спаць ды часаць патыліцы, чакаючы, што нехта за нас нашыя справы зробіць, дык „Сонца навукі скрозь хмары цёмныя зазьяе ясна над нашай нівою“... як пісаў наш нацыянальны пясьняр Янка Лучына ў часы маскоўскага панаваньня.

Мы верым у жывыя сілы свайго народу і ў яго здаровае палітычнае чуцьцё.

І мы пэўны, што першую, пастаўленую жыцьцём на дзенны парадак, задачу будаваньня роднае школы, ў якой дзеці народу змогуць вучыцца на матчынай мове, нам удасцца разрашыць па сіле і магчымасьцях.

## ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

**У Польшчы.**

Памёр пасол Сойму Тадэуш Фудакоўскі, выбраны па дзяржаўным сьпіску Ch. J. N. Фудакоўскі належаў да Z. L. N. (Народна-Нацыянальны Саюз).

10-га гэтага кастрычніка над'звычайны пасол і поўнамоцны міністар Саюзу Соцыялістычных Радавых Рэспублік Оболенскі выехаў з Варшавы. Да прыезду новага пасла Войкава кіраваць пасольствам будзе Бесядоўскі.

Польска-нямецкія перагаворы аб гандлёвым трактапе пачнуцца ў першыя дні лістапада. Пачнуцца яны ў Варшаве, пасьля будуць перанесены ў Бэрлін. Час трываньня перагавораў — больш-менш два месяцы.

Нованазначаны палескі ваявода палкоўнік Млодзяноўскі, пасьля прыняцьця ў Берасьці ўрадаваньня выехаў на пару дзён у Варшаву дзеля конфэрэнцыі аб справах, якія датычаць яго ваяводзтва.

13-га гэтага кастрычніка адбылася нарада пасольскага клюбу „Wyzwolenia“ пад кіраўніцтвам пасла Валерона. Нарада была сэкрэтнаю. Пасьля яе прэзэс Валерон зьявіўся да Маршалка Сойму п. Ратая, з якім адбыў доўгую конфэрэнцыю.

П. Маршалак Сэнату адбыў 13.X даўгую конфэрэнцыю з сэнатарам Коскоўскім, які інфармаваў маршалка аб прабегу жэнэўскае конфэрэнцыі, а таксама аб бягучай сытуацыі ў загранічнай палітыцы.

**За граніцай.**

Паводлуг вестак з **Баўгарыі,** там выкрыты камуністычны згавор, падрыхтоўваны **македонскаю** арганізацыяю камуністаў. Пры расьсьледаваньні апошніх забойстваў сярод павадыроў рэвалюцыйных арганізацыяў выясьнілася, што забойцы адтрымоўвалі значныя сумы грошай з Масквы.

Як перадаюць з **Кобургу** (Нямеччына), з 16 поўналетніх расейскіх вялікіх князёў 13 ужо выказаліся за маніфэст быўшага вялікага князя Кірылы, як вядома, абвясьціўшага сябе „ўсерасейскім царом“.

З **Пэкіну** паведамляюць, што на поезд, у якім ехаў гэнэрал Ву-Пэй-Фу, зроблены два замахі. Кіненыя бомбы не зрабілі ніякае шкоды.

У **Югаславянскай** сталіцы Белградзе **румынскі** пасол падпісаў з югаславянскім міністрам загранічных справаў ваенную конвэнцыю, зробленую яшчэ ў мінулым годзе.

У **Бэрліне** 13.X адбылася нарада ўсіх парлямэнтарных прадстаўнікоў нямецкае камуністычнае партыі. Пастаноўлена выказаць ураду вотум недаверыя.

Паводлуг афіцыяльных, адтрыманых у Лёндане інформацыяў, перагаворы паміж новым каралём **Гэджасу** Алі і павадырамі вагабітаў пе-

рарваны. З гэтае прычыны Алі загадаў свайму войску выйсьці з Мэкі, каб ухіліцца ад магчымае барацьбы ў самым месьце. Збройныя аддзелы вагабітаў знаходзяцца ўжо на прадмесьці Мэкі.

„**Neue Freie Presse**" паведамляе з **Амстэрдаму**, што голяндзкая паліцыя арыштавала аднаго немца, які хацеў прабрацца ў Дорн, каб забіць бышага нямецкага кайзэра Вільгэльма.

Паводлуг вестак з **Ангоры**, турэцкі ваенны міністар заявіў, што магчыма яшчэ мірнае разрашэньне дыплёматычным шляхам турэцка-ангельскага конфлікту па пытаньню аб Мосуле. Аднак-жа Турцыя прыняла ўсе меры ад усялякіх магчымасьцяў. За апошнія дні ні аб якіх інцыдэнтах на граніцы Іраку не паведамляюць.

У **Швэцыі** ўрад падаўся ў адстаўку. Кароль прасіў сяброў кабінэту часова нясьці свае абавязкі далей. Прэм'ер міністар пайшоўшага ў адстаўку кабінэту паведаміў, што адстаўка выклікана розьніцаю паглядаў паміж урадам і большасьцю парлямэнту ў пытаньні аб нацыянальнай абароне.

**Маскоўскія** газэты паведамляюць аб бунтах магамэтанскіх сялян у ваколіцах Ленкорані; а ў Елісаветпольскую губэрню ўварваліся курды і ў некалькіх сёлах забілі шмат расейцаў і армян.

---

# Агляд прэсы.

Польская прэса ў апошні час шмат загаварыла аб жыцьці на нашых крэсаў. У той час, як правая прэса ўсю прычыну „хваробы" крэсаў узвальвае на конституцыйныя вольнасьці, да якіх быццам усходнія крэсы яшчэ не дарасьлі і прапануе, як лякарства, ваеннае палажэньне, польская левая прэса ўсё часьцей - гусьцей вінаваціць у благіх крэсовых адносінах тутэйшую адміністрацыю, якая прызнавала конституцыю толькі на паперы.

„Robotnik" асабліва востра крытыкуе цяперашнія парадкі. Успомніўшы аб нападзе на цягнік пад Лунінцом, газэта піша:

...Не памаглі тут «опэрацыйныя штабы», не памаглі прысланыя з Берасьця і Варшавы „спэцыялістыя",— банды не злавілі і вось гэта ёсьць сумная праўда, якая сьведчыць аб поўнай няздольнасьці нашай паліцыі. Ішлі спрэчкі, хто павінен кіраваць акцыяй, ці п. падкамісар можа пайсьці пад загад п. камісара, а п. камісар ці можа слухацца вывядоўцы, а бандыты ў той час, сьмяючыся з улады, робячы па дарозе напады, ўцякалі ў Расею. Але Варшава, якую кармілі нябыліцамі, чакала рэзультатаў, трэба было ёй даць гэтыя рэзультаты, дык мала-ж у павеце мужыкоў, бандыты былі ў лапцёх і мужыкі таксама ходзяць у лапцёх; нашто надта мучыцца, навошта пільнаваць балацістую граніцу, ёсьць вёскі і мястэчкі на крэсах, яны дадуць бандытаў. Кароткае сьледзтва, ваенны суд і канец. Але банды далей грабяць і забіваюць людзей — і вось тут тайна трагэдыі жыцьця крэсовага грамадзяніна, з якой трэба ўжо пакончыць.

Без падмогі мясцовага насяленьня на балацістых і лясных тэрыторыях загады ўлады будуць безрэзультатны. Якая можа быць гэтая падмога насяленьня? Перш за ўсё зараз-жа паведамляць паліцэйскія аддзелы аб бандыцкіх рухах. Чаму гэтага няма? Трэба падумаць, ці грамадзянін, бачачы паліцэйскую трусасьць і дзіцячую непараднасьць, можа спаўняць гэты грамадзкі абавязак? З чыстым сумленьнем адкажам — не! Гэтак думае і ўсё амаль крэсовае грамадзянства, ўсе яго сфэры, ад мужыкоў да абшарнікаў уключна. Бо калі ўлада не гарантуе грамадзяніну бясьпечнага пераезду з Варшавы да Лунінца, дык як-жа ж можна вымагаць ад селяніна, які жыве недзе ў асобнай хаце сярод балот і дрыгвы пры граніцы, каб паведамляў, што граніцу перайшла савецкая банда, або што яна недзе хаваецца ў лясох. Знайшлося колькі гэткіх сьмелых, дык яны заплацілі за гэта сваім жыцьцём.

Далей аўтор (Ст. Воліцкі) дае прыклады, а пасьля піша:

Далібог, трэба быць шалёным, каб ад беларускага ці украінскага селяніна, якому не даецца ніякіх правоў, ад каторага часта бярэцца нічым неапраўданыя і непрадбачаныя законамі падаткі, каторага б'юць у морду (wali się po pysku), да якога найгорш адносяцца, вымагаць польскага патрыятызму! Селяніну трэба даць есьць, абясьпечыць яму страху над галавой, наладзіць яму школу ў яго мове, утварыць для яго гэткія варункі, ў якіх ён быў-бы ўзапраўды вольным грамадзянінам, даць яму апеку закону— і тады ня трэба будзе вучыць яго грамадзкіх абавязкаў, само жыцьцё яго навучыць. Перш за ўсё ідзе аб зямельную рэформу. Але што - ж? На адзін успамін аб гэтым „патрыёты" крычаць: паменшыцца ў краі вытворчасьць, хто-ж будзе плаціць падаткі? Абяднее скарб. А я вам на гэта, паны абшарнікі, адкажу коратка: польскі мужык, беларус, ці ўкраінец узложаныя на яго падаткі ўжо заплаціў. А вы, паны „патрыёты" з гэрбамі, магнаты, князі і графы — не заплацілі яшчэ першай часткі (raty) падатку ад маемасьці. У Лунінецкім пав. дзяржаўны скарб зажадаў ад гэтых паноў 72.554 зл., а яны з гэтай сумы не заплацілі—нічога, выразна *нічога!*

Далей зрабіўшы сваім звычаем яшчэ атаку ў бок абшарнікаў, „Robotn". дае красамоўную ілюстрацыю крэсовых парадкаў.

Што-ж цяпер дзеецца? Паліцыя і войска ўвялі на крэсовых вёсках „стан вынятковы". *Ад 5 гадз. ўвечары да 7 раніцы жыхаром вёскі нельга выходзіць з хаты.* У вёсцы Чудзін паны афіцэры білі людзей па твары за тое толькі, што яны ня зьнімалі перад імі шапак. Паліцыя адрывае ад дзьвярэй і скрыняў замкі, шукаючы доказаў (dowodów rzeczowych), а пры гэтым прападае масла, хлеб, сыр, сала. У вёсцы Будчы пабілі мужыка нагайкамі за тое толькі, што ён пасьля сёмай гадзіны выйшаў па ваду. Жаўнеры адказваюць сялянам, якія іх просяць, каб яны ня грабілі рэшты сена: „не накармлю каня — пасадзяць мяне пад арышт".

У хутары каля вёскі Вулька паліцыянты ўзялі аднаго з мясцовых сялян, які меўся быць правадніком для іх пры лоўлі бандытаў. Ведама, наперад напярэдзілі яго, што калі ён не пакажа ім бандытаў, дык яго ў лесе заб'юць. Дарма селянін шукаў з паліцыяй ліхадзеяў, а, баючыся за сваё ўласнае жыцьцё, паказаў на першых спаткаўшыхся людзей, якіх паліцыя арыштавала. Аднаго пусьцілі на волю, а другі пабіты ляжыць у бальніцы. З вёскі Красная Воля ўзялі 6 праваднікоў. Шукаючы з імі бандытаў, стралялі па дарозе, не шкадуючы набояў. Пачуўшы стрэлы спалоханыя два мужыкі, якія ў балотах лавілі рыбу, пачалі ўцякаць. Мабыць бандыты! Не памаглі 10 сьведкаў... Арыштавалі. Шасьцёх сваіх праваднікоў, пад пагрозай арышту прымусілі пасьведчыць, што ўцякаўшыя ад паліцэйскіх стрэлаў адстрэльваліся.

Гэтак спыняюць бандытызм на крэсах. Як ужо вышэй сказана, трэба некага злавіць, каб паказаць службовую лоўкасьць (sprawność). У гутарцы з судзьдзямі, а навет некаторымі паліцэйскімі ўраднікамі я чуў сумляваньне, ці злавілі каго з вінаватых. А дык-жа арыштавалі сотні людзей.

Гэтак „аздараўляюцца" крэсы!

---

## ПА СЬВЕЦЕ.

### Новая аўстрыяцкая валюта.

У аўстрыяцкі парлямэнт паступае законапраект аб увядзеньні з 1-га студня 1925 году новае валюты. Крона будзе заменена шылінгам, пры гэтым 1 шылінг будзе раўняцца 10.000 папяровых кронаў паводлуг цяперашняга курсу. Асобным законам будзе устаноўлена вага золата ў шылінгу. Побач з сярэбранымі монэтамі будуць курсаваць і папяровыя грошы. Выпушчаныя ў Аўстрыі два месяцы назад сярэбраныя шылінговыя монэты саўсім ужо зьнікл з абегу.

### Конкурс аэропляна ў.

У Дэйтоне, ў Амэрыцы, мае адбыцца конкурс 200 аэропляна ў, амэрыканскага вытвару. Аэропляны будуць ляцець навыперадкі на працягу 200 кілёмэтраў, Чакаюць збору публікі ў ліку да 250.000 чалавек, з якіх на ганаровых трыбунах могуць знайсьці месца 24.000 чалавек, апрача таго пабудованы гаражы для 40.000 самаходаў. Адным з эпізодаў конкурсу будзе бомбардаваньне аэроплянамі спэцыяльнага гораду, пабудованага на ўзор нью-іорскага Сіті з дамамі ў 33 мэтры вышыні. Усе гэтыя дамы павінны быць разбураны бомбамі з аэропляна ў.

### Папугай выдаў!

Нядаўна суд прысяжных у Бэрліне засудзіў адну жанчыну на 1 год і 6 месяцаў катаргі за тое, што яна фальшыва сьведчыла. Абвінавачаная пры разьдзеле насьледзтва тайна забрала папугая і калі супольнікі па

---

# „ДРЭЗ".

*(Глядзі № 34 „Грам. Голасу").*

— Нядобра вы зрабілі з Дрэзам, што да кухні адаслалі есьць! — казаў Стась.

Матка адазвалася, што, помніць як Дрэз бываў у паноў, „вялікіх", дык таксама ніколі яго з сабой не садзілі, а да кухні адсылалі.

Вечар увесь прайшоў у гаворцы вакол асобы Дрэза і яго долі. Не вярнуўся да „панскага" таварыства ён ужо: ў Дароце, Альжбетцы і Аляксандру знайшоў больш душы мусіць і чуцьця, чымся ў сям'і паноў Лычкоўскіх; з імі пад'еў, ім іграў ды з імі сьмяяўся.

Як прыйшоў час класьціся спаць дык, з нагавору пані, Дарота паслала яму пасьцель на саломе, дала кажух дзеля накрываньня. Дрэз лёг і заснуў смачна.

Дарота з Альжбеткай ляглі на печы, а Аляксандар пашоў начлегаваць; неўзабаве запанавала цішыня ў кухні, толькі неяк часта скробся і варушыўся неспакойна пад кажухом Дрэз, ды з панскіх пакояў чуваць было, як паны, цэлай грамадой, адмаўлялі ружанец...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Чуць-золак пані прыйшла і разбудзіла дзяўчат, каб ішлі даіць кароў, пасьля выганяць у поле.

Паненка Уршулька, праціраючы со сну вочы, самаахвоцьцю разганяла стаяўшы ў кухні сэпарат і, вурчучы машынай на ўсё Залычча, гнала з малака сьмятану.

Дрэз ад рагатаньня варочаўся на бокі але ня мог заснуць; пакрыжаваўся, абгладзіў валасы, зашпіліўся (бо спаў заўсёды ў адзежы) і ўскочыў, скрабучыся памінутна...

— Добры ве... пфу! дзень добры, паненцы!— прывітаўся, — трэба *ісьць! дрога далека!*

Уршулька наліла куфаль малака, падала з шафы лусту хлеба і далей круціла і раўла машынай; паказалася матка - пані з надворку, шэпчучы пацеры...

— Што гэта, Дрэз, так рана ўскочыў, куды рупішся? — пыталася ў яго далікатна.

— Панечка... на сьвежым мусіць месцы... *дзенькую* за *едзэне*! пад'еў *дзенькі* Богу і адпачыў...

Рупіўся запраўды Дрэз і, ўжо ўстаўшы з-за стала, шукаў свае засаленай, бліскучай шапкі.

— Дык ужо і выходзіце? Гэтак сьпешна? Куды-ж цяпер кірунак маеце?

— На новым месцы... панечка... ага... ў *сьвят* далёкі... куды вочы... Ну, *дзенькую* за *вшыстко*... ага... не спамінайце ліхам... *пахвалёны!*

Дрэз пасунуўся за дзьверы.

— Навекі! шчасьлівай дарогі! — казалі яму ўсьлед пані і Уршуля.

На дварэ, пры ганку стаў пан Лычкоўскі, пералічаючы рукою гусі, прад выпушчэньнем іх у поле.

— Ну, куды-ж гэтак рана? што ня спалася мусіць?

— Ага... на новым месцы... ага мусі... ніпто сабе...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Як сонца ўзыйшло з за лесу, ў Залыччы сабраліся сьнедаць, а Дарота захацела парадак зрабіць з пасьцеляй; — падыйшла, ўзялася за кажух і адскочыла. Кажух з чорнага за адну ноч зрабіўся шэрым... Гэтак многа на ім было... жывёлак... Пазвалі паню, пана... Дзівіліся ўсе...

Кажух, на палках, асьцярожна вынесьлі на паветра і на коліку ля хлява павесілі.

— Затое і рупіўся ён, ды на „новым месцы" ня спаў... ня дзіва!

Сьмяялася Дарота.

Падыйшоў Стась з Уршуляй...

Матка - пані загаварыла:

— Вось крыўдзіўся Стасік што не пасадзілі Дрэза разам за стол, ды спаць не далі на ложку сваім... Глянь, чаго ён варт!..

— Душой ён шмат чаго варт, але целам... апусьціўся! — ціха казаў стары пан.

Стась ківаў галавой, жаласьліва кажучы: — Жыцьцё яго гэткім зрабіла...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Кажух вісеў на калку блізка году і парылі яго ў лазьні, скрабалі; аблез зусім і пасьля ніхто яго ўжо не насіў...

І застаўся ён сьведкай у паноў Лычкоўскіх аб тым, што аднаго разу *рачыў* начлегаваць у іхнім фальварку вялікі і вядомы музыка „Дрэз", які калісь даваў багатыя концэрты паном.

**А. В.**

*(Канец).*

насьледзтву патрэбавалі ў судзе выдачы птушкі, дык жанчына гэтая прысягнула, што яе ня брала. Адпак-жа, падчас візыту пратэндаваўшых, схованая птушка пачала моцна крычаць і гэтым выдала ўсю праўду.

### З вастрогу ў палацы прэзыдэнта.

Амэрыканскія газэты паведамляюць, што расейскі маляр М. Сазонаў робіць цяпер патрэт прэзыдэнта Злучаных Штатаў Куліджа.

Кар'ера гэтага артыста вельмі цікавая. М. Сазонаў даўно ўжо ў Амэрыцы. Палажэньне яго было настолькі трагічным, што некалькі гадоў назад, каб не памёрці з голаду, ён пачаў падрабляць папяровыя грошы. Быў злоўлены й засуджаны на тры гады катаргі. У вастрозе адтрымаў пазваленьне займацца малярствам і нарысаваў вялікі абраз „Хрыстос памагае бедным“. Гэты абраз на выстаўцы ў Нью-Іорку адтрымаў першую прэмію, а прэзыдэнт Гардінг, даведаўшыся пра лёс мастака, памілаваў апошняга. Цяперашні прэзыдэнт запрасіў быўшага праступніка ў Белы Дом (рэзыдэнцыя амэрыканскга прэзыдэнта), дзе той малюе з яго патрэт.

### Штучная газа.

Францускі хімік Датэль Бартэлё зьмясьціў у газэце „Intransigeant“ артыкул, у якім даказвае, што яшчэ гадоў менш як цераз пяць штучная газа (карасіна) зробіць сур'ёзную конкурэнцыю натуральнай газе. Хімічныя досьледы ў гэтым кірунку ўжо закончаны і дабываньне штучнае газы прыме гыткія разьмеры, якія мае цяпер дабываньне азоту. Дзякуючы гэтай выдумцы, Францыя вызваліцца з-пад гаспадарчае залежнасьці ад дзяржаваў, якія дабываюць натуральную газу.

# У С.С.Р.Р.

### Настроі чырвонае арміі.

Бэрлінскі „Руль“ піша, перадаючы з акуратна асьведамленых кругоў, аб гэткім сучасным палажэньні чырвонае арміі:

Паміж Троцкім і Фрунзэ ня сьціхаюць расходжаньні. Яны па чарзе даводзяць да ўдачы то таго, то гэтага. Аўторытэт Троцкага, галоўным чынам, моцны сярод старога, якое знаходзіцца на савецкай службе, афіцэрства, якое бачыць у ім чалавека, што імкнецца да падняцьця ваеннае магутнасьці чырвонае арміі. А Фрунзэ, наадварот, апіраецца хутчэй на палітычнае кіраўніцтва С. С. Р. Р. і на новых чырвоных камандзераў. Хаця ў цяперашні момэнт Троцкі ў падвышэньні, але опозыцыя з боку Фрунзэ цягнецца далей і ня выключана магчымасьць, што коньюнктура ізноў зьменіцца на яго карысьць.

Ацэньваючы чырвоную армію, як цэлае, нельга не ад'значыць вялікае рознароднасьці ў якасьці і настроі ня толькі паасобных вакругоў, але навет і аддзелаў болей дробных групіровак. Дзьве аснаўныя рэформы, задуманыя савецкім урадам, а ласьне пераход да тэрыторыяльнае сыстэмы і нацыяналізацыі арміі аказаліся ў варунках сучаснай сапраўднасьці немагчымымі для зьдзейсьненьня. І ў тым і ў другім выпадку галоўнаю перашкодаю зьявіўся палітычны настрой каманднага пэрсоналу з аднаго боку і шэрэнговых чырвонаармейцаў з другога. Ня гледзячы на ўпартую працу палітычнага кіраўніцтва Саюзу Соц. Рад. Рэспублік камандаваньне чырвонаю арміяй ня можа безварункова мець на яе надзеі. Праца палітычных кіраўнікоў натыкаецца на неперарможныя процідзейныя сілы.

Варожы настрой сялянства да гораду прыводзіць да таго, што навабранцы варожа настроены да радавае ўлады, якую ім прыходзіцца бараніць. Гэты настрой падтрымліваецца сувязьзю салдатаў з мясцовым насяленьнем, якая пры тэрыторыяльнай сыстэме настолькі вялікая, што бароцца з ёю няма магчымасьці. Вось чаму нялічаныя проекты пераходу да тэрыторыяльнае сыстэмы ня могуць быць зьдзейсьненымі ці могуць быць— толькі ў зьменай форме. Тэрыторыяльная армія, ці праўдзівей, навет проста міліцыйная сыстэма зьяўляецца адным з аспаўных прынцыпаў камуністычнае партыі і дзеля гэтага радавая ўлада гэтак настойчыва вярталася да спробаў яе зьдзейсьненьня. Тое, што цяпер істнуе ў сапраўднасьці, мае вельмі мала супольнага з тэрыторыяльнаю арміяю. Есьць толькі дзевяць тэрыторыяльных дывізіяў, якія, ў выпадку мобілізацыі, перавяртаюцца ў звычайныя стралецкія дывізіі па штатах ваеннага часу. Тыя, што істнуюць, тэрыторыяльныя дывізіі маюць, усе бяз вынятку, шэфоўствы, непасрэдна зьвязаныя з камуністычным інтэрнацыяналам (тэрыторыяльная дывізія імя польскае камуністычнае партыі — Ленінград, імя італьянскае камуністычнае партыі — Віцебск і г. д.). Пры гэтых тэрыторыяльных дывізіях ёсьць спэцыяльныя нацыянальныя аддзелы з чужаземных камуністаў, і ў выпадку вайны яны мусі прымуць саўсім нацыянальны характар.

Другая процідзейная сіла ў арміі, можа яшчэ й больш небясьпечная — гэта каставы настрой каманднага пэрсоналу. Пераход арміі на мірнае палажэньне перавярнуў чырвоных камандзераў у прафэсіянальных афіцароў у поўным сэнсе гэтага слова. Настроі, якія сярод іх пераважаюць, далёка не адпавядаюць вымогам камуністычнага ладу. Маладыя чырвоныя камандзеры або вядуць далей партыйную працу і, апынуўшыся проціпастаўленымі палітычным кіраўнікам, прарабілі эволюцыю ў бок опозыцыі, або саўсім адыйшлі ад партыйнага жыцьця. Каманды пэрсонал апынуўся ў выгадным палажэньні дзеля таго, што адпавядальнасьць за палітычны настрой аддзелу ляжыць на палітычных кіраўніках. Праз гэта ўсё нездаволеньне чырвонаармейскае масы скіроўваецца ня проці каманднага пэрсоналу, а проці прадстаўнікоў палітычнага кіраўніцтва. Пры спробах правядзеньня дэнацыяналізацыі значэньне каманднага пэрсоналу пачало шпарка павялічвацца, і ў некаторых выпадках, як напр. на Украіне, ён саўсім эмансыпаваўся ад уплыву палітычнага кіраўніцтва. Небясьпека гэтая настолькі вялікая, што дэнацыяналізацыю прышлося сьпешна спыніць і навет аддзелы, ўжо перайшоўшыя на нацыянальныя мовы, былі перафармованы і перавернены ў першабытны стан. Навет адмовіўшыся ад дзьвюх у пачатку проектованых рэформаў, камандаваньне чырвонае арміі незаусёды ў сіле стрымаць аддзелы чырвонае арміі ад адкрытых антысавецкіх выступленьняў. У працягу аднаго верасьня адбыліся тры выпадкі неспакойстваў, у Палтаве, Сызрані і Екацерынбургу, адкрыты бунт 10-е каўкаскае дывізіі ў Барнауле, а ў самым Пецярбургу выкрыта буйная процібальшавіцкая арганізацыя, пашырыўшая свае сеці ў Бальтыцкім флёце. Да самага апошняга часу радавая ўлада лічыла, што прычынаю бражэньня ў арміі зьяўляюцца старыя афіцэры. За імі галоўным чынам і сачылі.

Усе ваенныя спэцыялістыя, з якога-б ні было боку выклікаўшыя падазрэньні, пераводзіліся на штатныя пасады і пазбаўляліся магчымасьці непасрэднага стыку з чырвонаармейскаю масаю. Замена іх чырвонымі камандзерамі, аднак жа, не павялічыла стойкасьці арміі. Наадварот, трэба ад'-

# Бібліяграфія.

**Уладзімер Жылка. „На ростані“,** вершы. Выданьне Віленскага Беларускага выдавецкага Таварыства. Вільня 1924.

Роўна 49 „вершаў“ пабіты на 4 аддзелы: I— Бацькаўшчына. II — З палеткаў і лясоў, III — Спатканьне з Эросам і IV — Думы і настроі. Творы аўтора — гэта дробныя вершы, так што ўся брашурка складаецца з 46 странічак фарматам у 1/16 аркуша.

Пачынаецца кніжка адным, хіба што з „найлепшых“, вершыкам „На ростані“. Як зараз пабачым, аўтор абсолютна ня можа правіць рытмам і вельмі часта таксама змушаны прыцягваць рыфмы проста за валасы адну да другое. Русіцызмы ледзь ня ў кожным штрофе, але й яны незаўсёды ратуюць музыкальнасьць. Проста ў творах сказваюцца спробы закаханага гімназіста напісаць геніяльны верш. Аўтор пяе:

„На ростані дарогаў многа
А лучнасьць іх — пахілы крыж.
I вецер лёгкі на разлогах,
I неба яснасьць, шыр і выш.
Ранейшай працы дасяганьні,
Наўкол — зялёныя жыта;
I сьвежасьць росаў сьветлых раньня...

Але спынемся над падобнай рытмікай: „I сьвежасьць росаў сьветлых раньня“. Ці-ж гэта сколькі-нібудзь просіцца на музыку? „Шыр і выш“— бязумоўна замест расейскага „ширь и высь“.

Канчаецца гэты вершык вельмі арыгінальна:

„I торба вось і кій дарожны:
Пара ў пуціну мне даўно...
А я — нясьмелы і трывожны,
А я — на ростані адно.

Ня йначай ад гэтай *нясьмеласьці* й *трывогі* аўтор ня мог нічога іншага знайсьці для рыфмы, як толькі гэтае — „адно“.

Неўладаньне рыфмаю змушае, як відаць, аўтора да чыста маскоўскіх зваротаў у вершы „Беларусь“:

„Дзе нядоля і гора спрадвек (?)
I беднота сярмяжных жывуць,
Крыўда дзе, паняверка і зьдзек
Краскай макавай ярка цьвітуць

Пабеларуску трэ' было-б напісаць замест „жывуць“, „цьвітуць“— *жыве, цьвіце,* хоць рыфма, праўда, тады яшчэ слабейшая, але зварот быў бы родны беларускі.

Аўтор саўсім не орыентуецца дзе можна, а дзе і нельга ніяк ставіць *й* ды *ў*. Напрыклад:

„Краіна родная так сталася й з табой...“

Або:

„Няхітры іх апавяданьні
Аб справах зьбегшых *ўжо* часоў“.

Ці яшчэ лепей:

„З надзеяй ў шчаснасьць дзён сьвятлейшых...“

Што пасьля зычных (*зьбегшых ўжо*), альбо пасьля *й* ніяк ня можа быць кароткага *у*—гэта-ж элемэнтарнейшае правіла ў граматыцы Тарашкевіча, куды мы і скіравалі-б аўтора, каб не пацець яму дарэмна над сваім *віршаваньнем*.

Бо трудна думаць, што ёсьць які-нібудзь рытм у гэткіх пастраеньнях, як:

„Але нам будуць ўсё-ж мілейшы...“

Ці:

„Будуе Край Свой ўнук...“
„Пад грушкай ў полі спачываць...“

Ды гэтак далей бяз меры.

Наўрад ці трэба мець хоць які-нібудзь талент, каб напізаць словы так, як гэта выглядае на стр. 12 у вершы без загалоўку:

„Толькі той, чый вольны дух
Застаецца ў бойках квол...

Пад канец верш гэты траціць навет і рыфмоўку, бо ніхто ня згодзіцца што „тахт“ можна рыфмаваць са словам „шлях“.

Але аўтор „На ростані“ з гэтым мала цэрамоніцца і піша на свой лад:

„Пагалоска зьдзівіць сьвет,
Заварожыць песьняў *тахт* —
Бо значны дзядоўскі сьлед
I вядзець у далі *шлях*.
Мо' запыніць які кат?
Мо' спужаемся чагосьць?
Калі трэба ўмерці на'т
Нам ня страх, а шчасьце ёсьць“...

Ну, як гэтае *кат* ды *нат*, дык ужо шчасьце невялікае.

У вершы „Пралескі“ (аддзел II) натыкаемся на страшэнны барбарызм:

„Зямелька-маць радзіла іх“...

Беларуская форма слова — *маці* ніколі ня можа мяняцца на маскоўскую форму — *мать*, якая беларусамі, кажаль, ужываецца толькі тады, калі ім даводзіцца аблаяць каго-нібудзь неперакладною маскоўскаю лаянкаю. Гэтае зьявішча ў нашым народзе ня дзіва, бо й беларусы ў маскалёх муселі служыць...

Мы ад'значылі тыя нярытмічнасьці ў аўтора, якія ў яго зборнічку зьяўляюцца проста нейкім правілам, а ўсе шурпатасьці яго творчасьці трудна было-б выпісаць і на валовай скуры.

На стр. 40, напр., чытаем нешта падобнае да вершу толькі таму, што надрукованы адзін радок пад другім і з боку стаіць загаловак: „Памяці П. Шэлі“.

„Маё жыцьцё паклаў на шалі,
А будучына — цёмны лес —
Згадаўся думцы кволы Шэлі,
Ягоны сьветласьпеўны лёс.
Іду няроўным, хібкім крокам,
За мной пануры іншых рад,
I боль на сэрцы крука крыкам,
I хварбіць горкім сьмехам рот...

Можна дадумацца да рыфмаваньняў: *лес — лёс, крокам — крыкам,* але сапраўды паўстае боль на сэрцы ад крыўды хараству роднай мовы і гэтага ўжо ніякім *крукакрыкам* нельга *падхварбіць.*

Скрыўдзіцца пэўна й сама родная матуля грамадзяніна Уладымера Жылкі ад вершу яго „Маёй Матулі“, ў якім ён, ня гледзячы ні на якія законы роднай мовы, валіць як у бубен:

Толькі ты згаворыш пацеры
Над нядоляю маей,
Толькі вочы мае мацеры (?)
Затуманяцца сьлязой...

Найгорш тут з гэтым маскоўскім словам „мацеры“. Бо нашае дык будзе — *маці.* Так яно па Тарашкевічу, так чуецца і з вуснаў кожнага беларускага селяніна.

I нам здаецца, што ня зборнікі трэ'было-б выдаваць падобных піітаў, а... лячыць іх ад графоманіі.

**Антыквар.**

значыць, як характарнае зьявішча, што маладыя чырвоныя камандзеры, асабліва, калі яны маюць заручку ў партыі, чуюць сябе куды больш незалежнымі і ахвотна йдуць на процібальшавіцкую працу.

Найбольш слабым месцам чырвонае арміі з пункту гледжаньня бальшавікоў ня сьціхае быць адсутнасьць камуністычнага духу. Ідэя барацьбы за сусьветную рэвалюцыю не прышчапілася, а за апошні час навет наагул адыйшла на другі плян. Па цяперашнім настроі чырвонае арміі дзеля стварэньня належнага пад'ёму быў-бы неабходны курс у бок нацыяналізму. Але савецкі ўрад у яго цяперашнім складзе лічыць гэткі курс небясьпечным і ўсялякім спосабам душыць імкненьні ў гэтым кірунку.

# Жыцьцё провінцыі.

### Баранавіцкі павет.

Гэтымі днямі паліцыя арыштавала бандытаў, якія ў 1922 годзе абрабавалі маёнтак Гладкага „Нач-Горка“. Арыштованы гэтакія асобы: 1) Марыя Філімонава 2) Пілін Трус і 3) Адам Кляшэўскі, жыхары вёскі Шчасновічы, Ляхавіцкай воласьці. Рэшта бандытаў зрабіўшых гэты напад, як Якуб Бабенка і браты Клёпкі, ўцяклі ў Расею і знаходзяцца там і цяпер.

Сьледзтвам сьцьверджана, што арыштованы Кастусь Шостак, якога падазраюць у нападзе на маёнтак Нач-Глебаўскую і забойства братоў Сьвянціцкіх, таксама прыймаў учасьце ў нападзе на Нач-Горку.

### Нясьвіскі павет.

5 гэтага месяца ў маёнтку Лазінскага „Галынка“, Сіняўскае воласьці згарэла гумно. Апрача хлеба, згарэлі ўсе машыны й земляробскія прылады. Падазраюць падпал. Страты перавышаюць 20.000 злотых.

### Дунілавіцкі пав.

У вёсцы Кжывальцы, Дунілавіцкага пав., згарэлі два дамы разам з іншымі будынінамі і жывёлай. Страты большыя за 80 тыс. злот.

### Салечнікі.

11 кастрычніка ў лесе каля вёскі Голіны, Салечніцкай вол., знайшлі труп Балеслава Адамовіча. Перад прыбыцьцем паліцыі труп забрала радня забітага. Хто і калі забіў Адамовіча яшчэ ня выясьнілася.

### Падбродзьдзе.

11 кастрычніка між станцыямі Падбродзьдзе і Сьвянцяны таварны поезд наехаў на чугуначнага стоража Амброжага Сьвітакоўскага, якому адрэзала галаву.

### Салечнікі.

11 кастрычніка на шляху між мяст. Вялікія Салечнікі і вёскай Багушы чатырох азброеных стрэльбамі бандытаў напалі на вяртаўшагася дамоў салечнікаўскага жыхара Моўшу Левіна, ў якога адабралі каня з возам ды ўцяклі.

### Сьвянцянскі пав.

10 кастрычніка пяцёх бандытаў, азброеных рэвальвэрамі, напалі на дом Язэпа Лапціка (ў вёсцы Сымоны, Кабыльніцкай вол.). Лапцік бараніўся. Бандыты двама стрэламі забілі сваю ахвяру і пачалі грабеж. Награбленны дабытак бандыты ўзвалілі на фурманку і ўцяклі ў бок літоўскай граніцы. Іх не злавілі.

### Алькенікі.

На літоўскай граніцы недалёка ад мястэчка Алькенікі паліцыя злавіла чатырох бандытаў з аружжам у руках. Бандыты былі схаваўшыся ў густым лясным гушчары. Калі іх акружыла паліцыя, яны здаліся бяз бою. На другі дзень паліцыя наткнулася йзноў на двох бандытаў. На сенажаці сярод лясоў адбыўся бой. Бандыты, адстрэльваючыся ад паліцыі, схаваліся ў лясох.

### Вялейскі пав.

У маёнтку Вяжынцы, ў Вялейскім п. згарэла пуня са збожжам Фр. Свентоўскага. Прычынай пажару быў падпал. Колькасьць стратаў яшчэ ня выясьнена.

### Радашкавічы.

13 кастрычніка ў Радашкавічах ўночы пачаўся пажар, які прычыніў вялізныя страты. У першую чаргу загарэлася памешканьне пажарнай каманды з усімі машынамі і бочкамі. Пасьля вагонь перакінуўся на будыніны валаснога праўленьня і на суседнія дамы. Згарэлі дамы Б. Рагозінай, Н. Сульмана і А. Будэрмана. Страты больш за 14 тыс. зл. Прычына пажару ня выясьнена. Думаюць, што вагонь пачаўся ад неасьцярожнасьці.

# Навіны у тры радкі.

— У Віцебску памёр вядомы **беларускі** вучоны прафэсар Аляксей Сапуноў.

— У Нямеччыне налічваецца 519.000 безработных. Лік іх паменшыўся з 15 верасьня да 1 кастр. на 9%.

— У паўночнай часьці Бэрліну быў цяжкі выпадак атручэньня мясам. Захварэла 8 чалавек. Адна жанчына памёрла.

— У Казані згарэў адзіны тартак. Страты значныя.

— Профэсыянальныя саюзы ў Аустрыі ў канцы 1923 г. налічвалі 896.763 сяброў, з іх 692.839 мужч. і 203.924 жанч.

— У Сухуме расстрэлены начальнік ляснога камітэту Абхаскае рэспублікі Жолквэр па абвінавачаньню ў злоснай безгаспадарнасьці.

— У вярхоўях Тэрэку знойдзены залежы самароднае серкі.

# Аб дапамогах сем'ям загінуўшых у часе вайны.

Згодна з новым законам ад 1 жніўня 1924 г. апублікованым Міністэрствам Вайсковых Справаў (Dziennik Ustaw № 74 — 1924 г. poz. 739) сем'ям асоб, загінуўшых у часе вайны будуць выдавацца дапамогі (zaopatrzenie). Загінуўшымі будуць прызнавацца тыя асобы, якія, напрыклад, служылі ў войску расейскім ад 1 жніўня 1914 г. да 1 сакавіка 1918 г. і загінулі на тэрыторыі і ў часе вайны ў зьвязку з службай іх у войску. Дзеля прызнаньня за загінуўшага вымагаецца, каб асоба гэтая была грамадзянінам Польшчы. Дапамогі могуць адтрымаць: 1) жонка загінуўшага, 2) дзеці шлюбныя, 3) дзеці няшлюбныя 4) дзеці ўсыноўленыя і 5) яго бацькі. Просьба аб прызнаньні загінуўшым падаецца да P. K. U. (Powiatowa Komenda Uzupełnień) таго вокругу, ў якім загінуўшы пражываў заўсёды, ці ў апошні час, альбо пражывае асоба, застаўшаяся па загінуўшым. Да просьбы гэтае трэба далучыць гэтакія дакумэнты: 1) калі просіць жонка— мэтрыку шлюбу 2) калі дзеці — мэтрыкі нараджэньня 3) дзеці ўсыноўленыя—акт усынаўленьня і 4) бацькі — мэтрыку нараджэньня загінуўшага. Апрача гэтага трэба прадставіць пасьведчаньне аб тым, што загінуўшы пражываў у Польшчы, альбо аб тым што пражывае ў Польшчы асоба, акая просіць.

# Тутэйшая хроніка.

= **У праваслаўнай сэмінарыі.** У панядзелак у праваслаўнай духоўнай сэмінарыі быў дырэктар дэпартамэнту міністэрства вераў і народнай асьветы п. Бароўскі разам з начальнікам аддзелу сярэдніх школаў гэтага-ж міністэрства і з памоцнікам віленскага школьнага куратара п. Сьвідэрскім, якія аглядалі сэмінарскую бібліятэку, вучнёўскі інтэрнат і былі ў некаторых клясах на лекцыях.

= **На работы ўва Францыю.** У апошні час сярод безработных у Віленшчыне (апрача гор. Вільні) дaецца заўважыць сільнае жаданьне выехаць на работу ўва Францыю. У дзяржаўным бюро запісалася на выезд больш як 200 чалав. Але высылка іх затрымоўваецца дзеля таго, што яшчэ ня прыехала кваліфікацыйная камісія, якая аглядае рабочых, маніўшыхся выехаць. Нядаўна ў бюро безработных зьявілася яшчэ 20 рабочых з провінцыі разам з рэчамі, з просьбай выслаць іх зараз-жа ўва Францыю.

= **Выстаўка зачынілася.** У сераду 15 кастрычніка зачынілася выстаўка мастацтва і рамёслаў, якая зьмяшчалася ў залі „Апольлё“ на вул. Дамброўскага.

Выстаўку ў працягу месяца яе істнаваньня аглядала больш як 7000 асоб, у тым ліку два міністры.

= **Катастрофа з поездам.** 14 кастрычніка каля таварнай станцыі сайшоў з рэльсаў таварны вагон, нагружаны дзеравам. Дзякуючы гэтай катастрофе папсованы рэльсы. Няшчаснага здарэньня з людзьмі ня было.

= **Стрэлы на вуліцы.** 14 кастрычніка ўночы на вул. Вівульскага раздалося колькі стрэлаў, якія моцна напалохалі жыхароў гэтага раёну. Як выясьнілася, страляў паліцыянт да арыштованага Я. Станкевіча, які хацеў уцячы. Раненага С. адвязьлі ў жыдоўскую бальніцу.

= **Сярэбраныя грошы.** Гэтымі днямі прыедзе з Амэрыкі ў Гданскі порт першы транспорт польскіх сярэбраных 2-х златовых монэтаў.

= **Сьпірт для манаполю.** Дырэкцыя дзяржаўнага сьпіртавога манаполю пачынае скупляць сьпірт, зроблены ў працягу 1923 — 24 гад. і дзеля гэтага зьвярнулася ў гарэлачныя бравары, каб яны паведамілі аб ліку сьпірту, які ў іх ёсьць. Дырэкцыя забярэ сьпірт у працягу лістапада, а грошы будуць заплочаны ў працягу месяца пасьля гэтага. Усе, хто мае больш як 100 гэкталітраў сьпірту, павінен паведаміць аб гэтым дырэкцыю.

# УСЯЧЫНА.

### Ангельскі тварэц цудаў.

Сэнсацыю ў Англіі зрабіла апісаньне газэтамі цудаў, якія зрабіў місіянэр „Charch of England“ (англіканскае цэрквы) I. R. Hickson у малым парафіяльным касьцёле каля Брадфорду. Пасьля службы, адпраўленае мясцовым вікарыем, у прысутнасьці брадфордаўскага біскупа, Hickson прайшоў паволі цераз сабраны ў касьцёле натаўп і даткнуўшыся леваю рукою да некалькіх калекаў і сьляпых, пасьля кароткае малітвы, аздаравіў іх. Паміж іншымі, ангельская прэса прыводзіць гэткія выпадкі: Шэсьцьдзесятгадовая кабета, якая двойчы выносіла опэрацыі, ляжала тры разы ў шпіталі і два гады не пакідала ложка, будучы скурчанай артрэтызмам, была прывезена ў касьцёл, куды ўвайшла з трулом на кулях. Калі да яе даткнуўся рукою Hickson, дык старая выпраставалася, адкінула ад сябе кулі і ўласнымі сіламі села ў самаход.

Іншая жанчына, якая пяць гадоў назад страціла магчымасьць бачыць, часткова паздаравела і сказала: „я пэўна, што ў хуткім часе саўсім пачну бачыць, я пачувала прысутнасьць Хрыста і руку Яго на маіх вачох“.

Hickson заявіў, што гэткія поўныя аздараўленьні, якія адбыліся ў даны дзень, незаўсёды здараюцца, але пераважна ён вяртае хворым здароўе ступнёва.

Ангельская прэса яшчэ ня выказалася аб тым, як яна глядзіць на вышэйапісаныя здарэньні.

### Дуэль паміж дамамі з-за мужчыны.

Італьянскія газэты паведамляюць аб сэнсацыйнай дуэлі паміж дзьвюма маладымі панямі з вышэйшага стану ў Нэаполі.

Марыя Мэшыно і Кантэта Пэрміно пакахалі нейкага Жана Манці. Дзеля таго, што ніводная з іх не хацела ўступіць, дык справа вырашылася праз дуэль на шпагах, якая адбылася ў лесе каля самага гораду. Сіньёра Мэшыно цяжка ранена ў грудзі і была дастаўлена ў бальніцу. Пэрміно арыштована. Сам Манці заявіў на сьледзтве, што ўся гэтая гісторыя адбылася без яго ведама і волі.

# Паштовая скрынка.

**Карнаухаў Н.** Анкета адтрымана. Праца ў хуткім часе распачынаецца.

**Канапелька. С.** Пісьмо адтрымана; вуч. Мышлён залічаны ў 1-ую катэгорыю і хутка адтрымае пасаду.



Рэдактар-Выдавец **Язэп Салавей.** Друкарня „Lux“, вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.